№ 4 красавік 2012 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

**... Ды калі ты не бязродны сын –**
**Гавары са мной па-беларуску...** *Яўгенія Янішчыц*

## *У НУМАРЫ:*



















# НАШЫ НАВІНЫ

ххх

18 сакавіка 2012 года ў Полацку прайшла абласная справаздачна-выбарчая канферэнцыя Таварыства беларускай мовы. Яё ўдзельнікі абмеркавалі стан роднай мовы ў сучасным беларускім грамадстве, моўную сітуацыю ў сістэме адукацыі, выдавецкую дзейнасць, правядзенне культурна-масавых мерапрыемстваў па прапагандзе роднага слова. Старшынёй абласной арганізацыі на новы тэрмін абраны Іосіф Навумчык, намеснікам – Юрась Бабіч. Ад пастаўскай суполкі ў каферэнцыі ўдзельнічаў І. Пракаповіч.



ххх

22 сакавіка ў памяшканні дзіцячай раённай бібліятэкі адбылася невялікая імпрэза з нагоды юбілею сябра ТБМ, вядомай на Пастаўшчыне настаўніцы беларускай мовы, публіцыста, актыўнага рэлігійнага дзеяча, сапраўднай беларускай патрыёткі Аліны Латыш. Сябры падарылі кветкі, невялікія падарункі, а таксама прэзентацыі пра жыццёвы і творчы шлях юбіляркі. Рэдакцыя "Шыпшыны" далучаецца да віншаванняў і зычыць добрага плёну ў дзейнасці на карысць роднай мовы і Бацькаўшчыны.

ххх

25 сакавіка, у дзень Волі, сябры пастаўскай суполкі ТБМ правялі святочнае пасяджэнне, у час якога ўдзельнікам былі прадстаўлены даклады Тамары Храпавіцкай пра гістарычныя абставіны абвяшчэння БНР і Наталлі Пракаповіч пра параўнанне рыс менталітэту беларусаў і амерыканцаў. Выступы суправаджаліся паказам прэзентацый.



*Кветкі для Аліны Латыш*

ххх

У пачатку красавіка сябры пастаўскай суполкі ТБМ падрыхтавалі і перадалі ў мясцовую тэлівізійную кампанію прапановы па пашырэнні ўжывання беларускай мовы.

### Прапановы пастаўскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы для тэлекампаніі "Паставы-ТБ"

1. Прадубліраваць рускамоўныя выпускі навін па-беларуску.
2. Прадэманстраваць фільмы пра Пастаўскі касцёл і царквы Пастаўскага раёна.
3. Папулярызаваць дзейнасць беларускіх паэтаў, пісьменнікаў і іншых творчых асоб беларускай культуры шляхам стварэння адмысловай тэлепраграмы, якая будзе знаёміць з іх дзейнасцю.
4. Увесці паказ беларускамоўных фільмаў і мультфільмаў.
5. Стварыць шэраг праграм, прысвечаных праблеме беларускай мовы.
6. Стварыць шэраг краязнаўчых праграм, прысвечаных Пастаўшчыне.

ххх

180 гадоў назад (1832 г.) у Вільні нарадзіўся Ромэр Альфрэд Ізідор, вядомы мастак, скульптар, медальер, геральдык, паўстанец 1863 г. З 1874 г. валодаў маёнткам Каралінова. Найбольш вядомыя карціны ў Беларусі – "Пінская мадона" (у Пінску) і "Хрыстос і сірата" (у Камайскім касцёле). Большасць твораў знаходзіцца ў музеях і прыватных калекцыях замежжа (Літва, Польшча). Памёр у 1897 г.

***Да 180-годдзя
з дня нараджэння мастака
Альфрэда Ромэра***

## МАСТАК І ГРАМАДЗЯНІН

У правінцыйных людзей часта ёсьць сьвядомасны стэрэатып сваёй нязначнасьці. Жыве звычайны чалавек у якім-небудзь маленькім правінцыйным гарадку, ці нават у вёсцы. Бачыць па тэлебачаньні ці ў часопісах жыцьцё вялікіх гарадоў, у якіх жывуць знакамітыя людзі. І гэта ўзьдзейнічае на простага правінцыйнага чалавека абясцэньваючa. Ён глядзіць на сталічных медыйных "зорак", потым на сябе, параўноўвае. І, зразумела, што параўнаньне будзе не на яго карысьць. Чалавек пачынае губляць веру ў каштоўнасьць свайго асабістага жыцьця. У выніку гэта вядзе да таго, што гэтым чалавекам лёгка патураць, з самастойнага індывідуўма ён ператвараецца ў шэры, нябачны вінцік агромністай сацыяльнай машыны. І з-за свайго асабістага абясцэньваньня чалавек дакладна так жа перастае цаніць і ўсё навакольнае. А потым мы ўсе дзівімся, калі бачым пабітыя ліхтары, зламаныя лаўкі, сьмецьце на вуліцах, п'яныя бойкі сярод сваіх знаёмых і суседзяў. Мы ўсе гучна абураемся, пытаемся куды глядзяць бацькі і міліцыя. Караем вінаватых людзей, замест таго каб шукаць прычыны іх паводзін.

А прычын многа. І адна зь іх – менавіта гэта самая непавага ні да сябе, ні да навакольнага сьвета. А як вярнуць да сябе самапавагу, пачуцьцё чалавечай годнасьці, калі амаль кожны з нас – звычайны правінцыял, які нічым не вызначаецца сярод іншых? Амаль ніхто з нас ні пісьменьнік, ні музыкант. За што тады сябе паважаць? Ды хаця б за тое, што такія людзі калісьці жылі ці жывуць паміж нас. Справа ў тым, што амаль усе выбітныя людзі заўсёды зьнітоўваюць саміх сябе са сваім народам – з усімі намі. Таму кожны зь іх – гэта часьцінка нас саміх. Але ж для гэтага нам спачатку трэба ведаць гэтых людзей. А цяпер запытайцеся самі ў сябе: каго зь вядомых пастаўчан вы ведаеце, каб маглі сьмела сказаць, што вы яго зямляк? Думаю, большасьць з пастаўчан нават не змогуць адказаць на пытаньне, што гэта за та-кі Станкевіч, на вуліцу якога едуць нашыя аўтобусы-"адзінкі", якія мы бачым кожны дзень.


*Альфрэд Ромэр*

Таму, хочаце паважаць саміх сябе, ведайце вядомых пастаўчан, на якіх вы ў любы момант зможыце духоўна абаперціся, каб адчуць і ўсьвядоміць сваю асабістую значнасьць. Ну, прозьвішча "Тызенгаўзы" яшчэ неяк больш-меньш чулі. Праўда, хто яны такія і што рабілі, думаю, мала хто скажа. Але, калі я назаву імя Альфрэда Ромэра, то, мабыць, акрамя тых, хто мае нейкае дачыненьне да пастаўскай школы мастацтваў, астатнія проста паціснуць плячыма. Мы звыкліся з тым, што недзе паўсюль былі мастакі, ва ўсіх краінах і гарадах. І зусім не думаем пра тое, што дакладна такі ж мастак, якім можна ганарыцца, жыў і ў нас на Пастаўшчыне. І ў гэтым годзе яму спаўняецца ўжо 180 гадоў.

Пра Альфрэда Ромэра зрэдку


*Мемарыяльная дошка ў Камайскім касцёле*

зьяўляецца інфармацыя, таму толькі нагадаю асноўныя вехі яго жыцьця. Поўнае імя мастака - Альфрэд Ізідор Ромэр. Нарадзіўся ён 16 красавіка 1832 года ў Вільні ў шляхецкай сям'і. Праз два гады памерла яго маці Ганна. А ў 1839 годзе за антыцарскую дзейнасьць быў арыштаваны і сасланы ў Расею яго бацька Эдвард Ян Ромэр. У выніку Альфрэд выхоўваўся ў сваіх дзеда з бабуляй. Спачатку ён вучыўся дома, потым у



*Сядзіба Ромэраў у Каралінове*

Інстытуце Шляхецкім у Вільні. І там жа ён пачаў браць урокі малявання ў віленскага мастака Канута Русецкага. Пасьля заканчэньня інстытута Альфрэд Ромэр паехаў у Волагду да свайго высланага бацькі, і застаўся жыць зь ім пасьля таго як бацька вярнуўся з выгнання. Адначасова працягваў у Вільні вучыцца маляваць. А ў 1857 годзе Эдвард накіраваў свайго сына ў двухгадовы ваяж па Еўропе, падчас якога Альфрэд наведаў буйнейшыя культурныя цэнтры Нямеччыны, Францыі, Бельгіі, Італіі.

Пасьля вяртаньня ён пасяліўся ў маёнтку Крэўна ля Вількаміра. У 1863 годзе Альфрэд Ромэр быў арыштаваны царскімі ўладамі за ўдзел у беларускім нацыянальна-вызваленчым паўстаньні. Вызваліўся толькі ў 1865 годзе. Але вярнуцца ў Крэўна ўжо не давялося – царскія ўлады адабралі гэты маёнтак сабе. Давялося жыць у сваякоў. У 1867 годзе Ромэр зноў паехаў у Еўропу. Але цяпер ужо з дакладнай мэтай – вучыцца мастацтву. Ён аб'ездзіў Францыю, Швейцарыю, Чэхію, Нямеччыну, дзе ў знакамітых майстроў вучыўся жывапісу, гравюры, скульптуры.

Толькі праз сем гадоў, у 1874 годзе, Ромэр вярнуўся на радзіму. У гэты ж год ён ажаніўся на Вандзе Сулістроўскай і пераехаў жыць да яе ў Каралінова, дзе і пачаў актыўна ўжываць набытыя ў Еўропе свае мастацкія ўменьні. Тут ён пражыў да 1884 года. Потым пераехаў у Кракаў, але ў 1894 годзе зноў вярнуўся ў Каралінова, дзе памёр у 1897 годзе і быў пахаваны у Троках.

За ўсё сваё жыцьцё, па падліках яго дачкі Гелены, Альфрэд Ромэр стварыў 63 партрэты алеем, 81 пастэль, 41 медальён, 9 скульптур, а таксама розныя краявіды, копіі рэлігійных абразоў, партрэтаў, дзесяткі малюнкаў, гравюр, акварэляў. Прычым, яго асноўныя мастацкія творы нарадзіліся менавіта падчас жыцьця ў Каралінове на нашай Пастаўшчыне. На жаль, большасьць твораў мастака або загінула ў віхуры войнаў, або была вывезена ў суседнія краіны. У Беларусі, па вялікаму рахунку, засталіся толькі два абразы: адзін - у Пінскім касьцёле, другі - у нашым Камайскім касьцёле.

Але акрамя сваёй мастацкай дзейнасьці Альфрэд Ромэр займаў яшчэ і актыўную грамадзкую пазіцыю, што не заўсёды ўласьціва для творчых людзей. Маючы добрую адукацыю і немалую прыватную ўласнасьць ён рызыкаваў, прымаючы ўдзел у паўстаньні, бо мог бы бесклапотна і ціха жыць далей. Але творца не трымаўся за сваё багацьце і спакой. І такім сьвядомым грамадзянінам быў не толькі ён сам, але і ўсё яго бліжэйшае атачэньне.

Яго бацька, Эдвард Ян, удзельнічаў у змове Сымона Канарскага, мэтай якога была чарговая спроба вызваленьня тэрыторый былой Рэчы Паспалітай з-пад царскай акупацыі пасьля наяўдалага паўстаньня 1830-1831 гадоў. Сам Альфрэд Ромэр актыўна удзельнічаў у падрыхтоўцы да беларускага нацыянальна-вызваленчага паўстаньня 1863-1864 гадоў пад кіраўніцтвам вядомага Канстанціна Каліноўскага, за што быў арыштаваны царскімі ўладамі. І, хоць палявы суд апраўдаў Ромэра, бо не знайшлося фактаў непасрэднага ўдзелу мастака ў паўстаньні, тым не менш царскі генерал М. М. Мураўёў-вешальнік, які зьнішчыў шмат беларускіх патрыётаў, разумеў, што Ромэр патэнцыяльна небясьпечны чалавек для царскага рэжыму. І ён прыклаў свае намаганьні для таго, каб саслаць Ромэра ўглыб Расеі, далей ад радзімы.

Акрамя сваякоў вакол Ромэра зьбіраліся і іншыя людзі, якія прытрымліваліся тых жа самых ідэй. Нават жонка Альфрэда Ромэра, Ванда Ромэр, паходзіла з роду Сулістроўскіх, якія таксама былі ў апазіцыі да царскіх уладаў. Сямейства Сулістроўскіх прыхільна ставілася да таго, каб паўстанцы мелі прытулак у Каралінове. У выніку, па загаду М. М. Мураўёва-вешальніка сядзіба Сулістроўскіх у 1863 годзе была спалена. Гаспадару давялося будаваць новы будынак, у якім потым і жыў са сваёй жонкай Альфрэд Ромэр.

У гэтым жа доме сямейства Ромэраў прытуліла яшчэ аднаго яскравага ўдзельніка паўстаньняў за незалежнасьць – Фларыяна Даноўскага. Фларыян таксама паходзіў са шляхецкага роду. Пасьля атрыманьня пачатковай адукацыі ў Панявежы ён працягваў адукацыю ў Вільні. Сам сабе зарабляў на жыцьцё рэпетытарствам. Там жа, у Вільні, ён далучыўся да арганізацыі "Братні саюз літоўскай моладзі", якая ставіла мэтай адраджэньне маральнасьці і духоўнасьці грамадства, усталяваньне справядлівасьці для людзей усіх станаў, паляпшэньня жыцьця сялян і гарадзкой беднаты, з наступным зьвяржэньнем існуючага ладу.

У 1849 годзе амаль ўсе ўдзельнікі арганізацыі былі арыштаваныя. І 16-гадовы Фларыян Даноўскі атрымаў у якасьці пакараньня 1000 udараў палкамі і 15 гадоў катаргі ў Нерчынскіх капальнях. Пасьля вяртаньня Ромэры запрасілі Даноўскага жыць да сябе. Але напярэдадні паўстаньня Каліноўскага неўтаймаваны Даноўскі зноў пачаў наладжваць сувязі з будучымі паўстанцамі. І праз кароткі час зноў быў арыштаваны. Але даказаць яго ўдзел у паўстаньні не удалося і Даноўскага выпусьцілі. Ён зьбягае ў Вільню, дзе хаваецца і вядзе актыўную агітацыю на карысьць паўстанцаў. Урэшце, у 1864 годзе яго зноў затрымалі, судзілі і саслалі ў Сібір. Па вяртаньні на радзіму яго зноў запрасілі жыць да сябе ў Каралінова Ромэры: Альфрэд са сваёй жонкай Вандай Сулістроўскай. У Каралінове Фларыян жыў да сваёй сьмерці.



*Фларыян Даноўскі*

Вось такім быў Альфрэд Ізідор Ромэр, гэты цікавы мастак-бунтар, які меў выдатную мастацкую адукацыю, аб'ездзіў амаль усю Еўропу, нягледзячы ні на што ўступіў у супрацьстаяньне з вялізарнай імперыяй, сабраў вакол сябе такіх жа самых цікавых і адукаваных людзей, перакананых барацьбітоў за нацыянальнае вызваленьне, доўгі час жыў у нас на Пастаўшчыне і стварыў тут свае самые найлепшыя мастацкія творы.

Гэты чалавек выкарыстоўваў буйныя гарады толькі для таго, каб атрымаць там адукацыю. Але для таго, каб нешта стварыць самаму, Ромэр жыў менавіта ў такой жа правінцыі як і мы. Гэтак сама, як і наш Канстанцін Тызенгаўз. Для таго, каб стаць сапраўднай асобай і стварыць нешта вартае, ім не патрэбны былі вялікія гарады. А мы, зачараваныя штучным штампаваным бляскам мегаполісаў, абясцэньваем і зьнішчаем і саміх сябе, і ўсё тое ўнікальнае і арыгінальнае, што для нас стварылі нашыя продкі, аб якіх мы ўпарта ня хочам нічога ведаць.

Вадзім Шышко

*(у артыкуле захаваны аўтарскі правапіс)*

***Году кнігі прысвячаецца***

## СВЯТЛО РАДАСЦІ І НАДЗЕІ

Дзеці – наша надзея і будучыня. Менавіта ад іх залежыць, у якой краіне мы будзем жыць заўтра. Зойме беларуская мова ў нашай краіне пачэснае, належнае ёй месца, ці будзе, як зараз, падчаркай. На вялікі жаль, у школьнай адукацыйнай і выхаваўчай рабоце мова займае не шмат месца. У выніку большасць дзяцей ведаюць яе дрэнна. І таму, калі перад супрацоўнікамі дзіцячай бібліятэкі паўстала пытанне, на якой мове рабіць адкрыццё тыдня дзіцячай кнігі, былі сумневы, ці зразумеюць дзеці па-беларуску. Але ўсё ж перамагла вера ў нашу генетычную беларускасць і свята кнігі ўпершыню прайшло на матчынай мове.



Для вучняў пачатковых класаў гарадскіх школ на сцэне канцэртнай залы школы мастацтваў была паказана тэатралізаваная дзея, якая называлася "Незвычайнае падарожжа каралевы Кнігі і



камп'ютэра Компі". Арганізатары хацелі давесці да гледачоў каштоўнасць і карысць друкаванага слова.



І якая ж была наша радасць, калі с першых хвілін дзеі адбыўся поўны кантакт і ўзаемаразуменне залы і актораў. Дзеці ўсё цудоўна зразумелі і прынялі, гэта было бачна па зацікаўленых тварах і вясёлых вачах. Хлопчыкі і дзяўчынкі з радасцю адгукаліся на ўсе прапановы казачных герояў: з



натхненнем крычалі шумелку "Вецер рад у лістападе пагуляць у голым садзе", адгадвалі беларускія загадкі, спявалі разам фінальную песню, словы якой напісаў лынтупскі паэт і краязнаўца Алесь Гарбуль, а Людміла Логінава паклала іх на музыку.

Вясёлая гульня акцёраў, яркія касцюмы, танцавальныя паўзы – усё гэта стварыла маленькім гледачам пазітыўны настрой і далучыла іх да беларускасці. Інакш і быць не магло: калі са сцэны ідзе шчырасць і любоў да роднага слова, гэта заўжды знойдзе водгук у дзіцячых сэрцах. А таму беларуская слова і любоў да беларускасці вельмі лёгка пасеяць. Вельмі лёгка пасеяць, знайшліся б толькі сейбіты…

*Людміла Сяменас*

# «ПАЭЗІЯ - ГОСЦЯ НЯБЕСНАЯ...»

## *Людміла Цыбульская*



*Нарадзілася ў мястэчку Крывічы Мядзельскага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучылася на філалагічным факультэце БДУ у г. Мінску.*

*Працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў школах Мядзельскага і Пастаўскага раёнаў, у Пастаўскім школе-інтэрнаце.*

*Вершы друкаваліся ў калектыўным зборніку "Рунь", рэгіянальных і раённых перыядычных выданнях.*

### КАЛЯ ПАЛАЦА

**Гучала музыка здаля**
**Каля палаца Тызенгаўзаў.**
**Здаецца, слухала зямля,**
**Пра ўсё забыўшыся адразу.**

**Так строй, карунак свой плялі,**
**Зляталі гукі зверху, знізу**
**І над калонамі плылі**
**У гонкім стылі класіцызму.**

**Вякоў і даўніны пагляд**
**Варушыць думкі, сны**
**трывожыць.**
**Здаецца, што праз гэты сад**
**Райнольд-музыка зноў**
**праходзіць.**

**І постаць Канстанціна тут,**
**У арніталогіі спазнаўцы.**
**Так хочацца, няхай праз цуд,**
**З самім Антоніям спаткацца.**

**Ды толькі павявае сумам**
**Ад той пары, ад той часіны.**
**А там, пад небам угары**
**Ўсё той жа покліч жураўліны,**
**Пад небам над маёй краінай**
**Ад той пары.**

### ЦАРКВА НА ПЛОШЧЫ

**Зноў люты гойдае аблокі,**
**З галінак абтрасае мроі.**
**Бялеюць велічныя строі,**
**Шатры тугія, мур высокі.**

**Святы Мікола ў задуменні**
**У свет пазірае праз стагоддзі.**
**Гамоніць вір, вякі праходзяць,**
**Над плошчаю гады струменяць.**

**І верыцца, што будзе вечна**
**Жыццё бруіцца так бясконца,**
**Вітаць нас будуць сем анёлаў**
**Царквы Міколы-цудатворца.**

### ЛЯ КАСЦЁЛА

**У месяцавым ззянні ўвесь сусвет.**
**Здаецца, што пад гэтымі нябёсамі**
**Не можа быць ні гора, а ні бед,**
**Бо Усемагутны ўпраўляе лёсамі.**

**І агарне надзейная рука...**
**Ля сцен святых сляды вякоў**
**застылі.**
**Шумяць Паставы, удаль быжыць**
**рака,**
**Стаіць касцёл тут у гатычным**
**стылі.**

***ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ НАШАГА КРАЮ***

## СВЯТАЯ КРЫНІЦА Ў ВЯРХОЎІ

Ад Норыцы на поўдзень ляжыць вёска Жданы, за якой на адлегласці з паўтара кіламетры раней быў фальварак Вярхоўе. Зараз амаль ніякіх прыкмет таго, што тут калісьці сяліліся людзі і бруіла жыццё, не засталося. Але мясціна вабіць да сябе падарожнікаў і пілігрымаў. Тут шчыльна перапляліся духоўныя сцежкі паганства і хрысціянства, што, урэшце, стварае прастору, насычаную энергетыкай сакральнасці, таямнічасці. Верагодна, у дахрысціянскія часы ў гэтай мясцовасці знаходзіўся культавы цэнтр тутэйшых плямёнаў. Такая версія грунтуецца на тым, што на невялікай плошчы спалучаюцца адметныя прыродныя элементы, на якіх раней ўзрасталі ўяўленні пра сілы зямлі, яе багоў і духаў: невялікая рэчка, узгорак, дуб, крыніца. Не ўсе яны захавалі да сённяшняга дня сведчанні пра сваю сакральнасць, толькі пра крыніцу з пакалення ў пакаленне перадаецца паданне пра яе жыватворнасць. У народзе яе так і называюць "Святая крыніца". Галоўны выхад вады знаходзіцца пад высокай вольхай, карнявая сістэма якой утварае натуральнае кольца дыяметрам 0,7 м і глыбінёй каля 30 см. Мясцовы жыхары лічаць ваду святой. Каля крыніцы пастаўлены чатырохметровы крыж; на рэлігійныя святы там праводзяцца абрады.



У XIX стагоддзі ў Вярхоўі быў маёнтак Гінтаўтаў і сямейная капліца. Прадстаўнікі гэтага шляхецкага роду бралі актыўны ўдзел у паўстаннях супраць расійскай акупацыі краю, за што падпадалі пад рэпрэсіі і пераслед. Некалькі год таму на месцы былой капліцы ўсталявалі высокі драўляны крыж з памятнай дошкай каля яго асновы. Па-польску і па-беларуску на дошцы выбіты наступны тэкст: "Гэты крыж устаноўлены на месцы знаходжання каталіцкай капліцы роду Гінтаўтаў – уладальнікаў маёнтка ў Вярхоўі, забранай пасля паўстання 1863 г. Разбуранай у 1965 г. Сенатар Польскай Рэспублікі Дарыюш Гурэцкі, сын Ванды Гінтаўт".

Штогод улетку на месцы былой капліцы збіраюцца вернікі, каб памаліцца разам і набраць з сабой святой вады з крыніцы. Вада ў ёй гаючая, смачная і карысная для здароўя.

*Ігар Пракаповіч*

*Нумар падрыхтаваны да друку 28.04.2012 сябрамі краязнаўчага таварыства імя К. Тызенгаўза і пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны.*




| | | |
|---|---|---|
| ***Шыпшына*** *Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны* | Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч | Вёрстка: Ігар Пракаповіч |
| | Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл.: 02155-4-44-75 | *Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў* |
| | | *Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма* |
| | | *Наклад 100 асобнікаў* |